**Рух цягнікоу**, з прычын падвозу грузау, часова прыпынены усюды.

**Моркву** па 12 р. пуд прадае усім мястовы харчовы аддзел у складзе № 3 (рог Падгорнай і Домініканскай вул.) у Шляхоцкім доме з 10-й да 4-ай гадзіны удзень.

**На рынку** за панядзелак, 1-га сьнежня цэны былі вось якіе: возік бярозавых дроу—220 р., са..о—22 р. ф., малако—5 р. кварта, масло—28 р. фунт, каубаса—16 р. фунт, мясо—7 р. ф.

## Тэатр і мастацтво.

У суботу 29 лістапада пасьля доугага перарыву адбыуся сход сяброу Першага Таварыства Беларускай Драмы і Камэдыі. Да гэтага часу Т-во, пасьля бальшавіцкага тэрору, не магло яшчэ сабрацца і працаваць. На сходзе была вынесена пастанова каб зноу як найхутчэй узяцца за рэяльную працу.

У чарговую суботу і нядзелю ужо маюцца адбыцца спэктаклі.

У склад т-ва апрача старых працаунікоу як: Ф. Ждановіч, Ф. Аляхновіч, Р. Жакоускі, М. Міцкевіч, А. Крыніца, Я. Адуцкевіч, В. Тарасік, Е. Станкевіч, Л. Лабаноуская, В. Жылінская, Л. Новахацкая і інш. запрошаны яшчэ новые артыстычные сілы.

Рэжысура будзе ляжаць на вядомых беларускіх артыстах Ф. Ждановічу і Ф. Алехновічу.

Наогул зроблена пераарганізацыя Т-ва, выбраны новы старшыня і прэзыдыум. Прыймаецца запіс у лік сяброу т-ва.

## Допісы.

**М. Ігумень, Менск. губ.** У маленькім захалусным гарадку Ігумене, жменя беларускай інтэлігэнцыі залажыла Нацыянальны Камітэт і школьную беларускую раду. Адкрылі і пачатковую беларускую школу, у якую з Менску прыслалі настауніцу. Ніколі яшчэ Ігумень ня бачыу беларускай працы і ніяк ня можа з ею асвойчыцца. Куратарыум школьны, назначаны польскімі уладамі (на чале яго аднак стаіць маскоускі чыноунік Булгак) адчыняе па усім павеце і бярэ на свае утрыманьне расійскіе школы. Калі-ж некалькі дауней-шых расійскіх школ пераформаваліся па жаданьню бацькоу у *беларускіе* дык *Куратарыум адмовіуся іх утрымлівацъ* (!). А Ігуменскай беларускай школьнай радзе, якая клапацілася аб гэтых школах, было проста заяулена, што Куратарыум з ею лічыцца ня будзе. *)

Вось адзін з яскравых прыкладау, як мяйсцовая польская улада адносіцца да самай нявіннай культурнай беларускай работы. А каб зразумець, якіе парадкі пануюць у Ігумені, дык трэба сказаць, што павятовы камісар п. Ваяводзкі, наадварот, лічыцца і з школьнай радаю і з нацыянальным камітэтам.

*) Ходзяць нават чуткі, што успомнёную вышэй беларускую школу проста хочуць закрыць, а на яе месцо адкрыць расійскую школу і гэта дзеецца ужо ня у Горадзеншчыне, да чаго мы прывыклі, а у Ігумені—дзесяць міль на усход ад Менску.

Выходзе проста, што адна рука робіць, а другая адрабляе. Каму такая работа на карысьць?

С—ч.

**М. Навагрудак, Менск. губ.** Тут з 14 кастрычніка утворана беларуская павятовая нацьянальная рада, але праца ідзе вельмі цяжка з прычыны няхвату грошау і людзей, маючых хоць крыху свабоднага часу.

Ставілі спэктакль—„Па рэвізыі“, „Як яны жаніліся“ і дэклямацыя. Праз тыдні тры манімся паставіць другі.

„Беларусь“ мы адтрымлівалі да 9-га лістапада, а цяпер нешта не адтрымліваем.

Няхват у нас літэратуры. Трэба сцэнічных творау, вершау для дэклямацыі, трэба, наогул, друкаванага слова—глаунай дапамогі для нашай працы.—

**А. Акулік.**

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



З дазв. вайсков. цэнзуры.
Менск. Друкарня Інвалідау,